Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 20.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **160.000** м.п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 4. Вільня, Чацьвер, 8-га лістапада 1923 г. Год I.

## Проба сіл.

Забастовачны рух у Польшчы прыймае новую форму.

Дагэтуль, ня гледзячы на ўсе эндэцкія лямэнты аб „процідзяржаўнай“ дзейнасьці „ўнутраных ворагаў“ Польшчы, забастоўка машыністаў і пачтавікоў мела выключна эканамічны характар. Проста, йшла барацьба аб матар‘яльнае забясьпечаньне гэтых працаўнікоў, заробкаў каторых не хапала на пражыцьцё. Забастоўка нічым ня розьнілася ад забастоўкі работнікаў, прыкладам, ткацкіх фабрык у Лодзі ці капальняных работнікаў у Горным Сьлёнску, толькі там прадпрыемцамі зьяўляліся прыватныя капіталісты і акцыйныя таварыствы, тут-жа гаспадар—*дзяржава*.

На гэтым грунце і разьвіваюцца выпадкі, сьведкамі каторых мы зьяўляемся. Дзяржаўная ўлада тым розьніцца ад прыватных прадпрыемцаў, што яна ня толькі гаспадар прадпрыемства (—чыгунак, почты і т. д.), але і *ўлада* над працаўнікамі. I вось, лічучы немагчымым для польскага скарбу здаволіць эканамічныя дамаганьні забаставаўшых машыністаў і пачтавікоў, урад пастанавіў скарыстацца сваей уладай і *прымусіць* забастоўшчыкаў вярнуцца да працы.

У Кракаве, дзе забастовачны рух наймацнейшы, усе бастуючыя чыгуншчыкі і пачтавікі былі прызваны ў войска, як запасныя („рэзэрвісты“), і тых, хто зьявіўся на прызыў, ураз-жа пасылалі на чыгунку выпаўняць іх старыя абавязкі, толькі не як служачых, а як жаўнераў. Адначасна было абвешчана ўвядзеньне ваенна-палявых судоў („sądy doraźne“) для тых, хто будзе ўхіляцца ад прызыву.

Паскольку спачатку цантраля прафэсіянальных саюзаў і работніцкія сацыялістычныя арганізацыі адносіліся да забастоўкі працаўнікоў чыгунак і почты *няпрыхільна*, пастольку адносіны зьмяніліся пасьля сказанага кроку ўлады. Левыя партыі ўбачылі ў кракаўскіх загадах неканстытуцыйнасьць і запратэставалі проці гэтага. Цантральны Выканаўчы Камітэт П. П. С. у знак пратэсту абвесьціў *агульную забастоўку*, пачынаючы ад панядзелку, 5 лістапада.

Агульная забастоўка, абвешчаная польскімі сацыялістамі, гэта ўжо *чыста палітычнае выступленьне.* Гэта — *перанос у масы народу таго змаганьня*, якое йшло дагэтуль у Сойме паміж „лявіцай“ і партыямі „правіцы“, на якія апіраецца і якімі падтрымліваецца ўрад паноў Вітаса, Дмоўскага і Корфантага.

У адказ на абвешчаньне агульнае забастоўкі ўрад і ўрадовыя партыі ўчынілі рад дужа радыкальных крокаў. Прыкладам, у Віленшчыне дэлегат ураду забараніў рабіць усякія паходы і сходы пад адкрытым небам, не выключаючы нават *пасольскіх мітынгаў*. Падобныя загады выдадзены на ўсей Польшчы. Адначасна з гэтым заварушыліся правыя арганізацыі і пачалі гуртаваць свае сілы, каб недапусьціць да зьдзейсьненьня агульнае забастоўкі. Зьявіўся цэлы рад адозваў арганізацыяў, кіраваных „хіенай“, як-то: „Zjednoczenie Polskich Stowarzyszeń“, „Legja Obrony Konstytucji“, „Stowarzyszenie Samopomocy Społecznej“,—і іншых фашыстаўскіх установаў, якія заклікаюць грамадзянства *арганізавацца* і *замяняць бастуючых работнікаў і ўрадовых служачых.*

Мы йшчэ ня маем вычэрпываючых ведамасьцяў аб ходзе агульнае забастоўкі і аб дзейнасьці праціўнікаў яе. Але, ня гледзячы на гэта, можам напярод сказаць, што на гэтым грунце адбудзецца *проба запраўдных, рэальных сілаў* двух вялікіх палітычных абозаў, на якія падзялілася Польшча: абозу дэмакратычнага і сацыялістычнага — з аднаго боку, нацыяналістычна-фашыстаўскага—з другога. Дагэтуль мы бачылі змаганьне між гэтымі абозамі ў Сойме, дзе „лявіца“ і „правіца“ блізу роўныя, толькі перавагу апошняй давалі групы, сацыяльна і палітычна нявыразныя. Цяпер павінны выявіцца ўплывы абодвых абозаў на грамадзянства. Ход забастоўкі павінен выявіць на дзеле сілы „лявіцы“ і „правіцы“. I хаця „проба сіл“ адбываецца ня ў зусім роўных для змагальнікаў абставінах, бо *проці* забастоўкі выступае ўрад з усім сваім адміністрацыйна-вайсковым апаратам, усё-ж мы—дый, пэўне, ўсенькі сьвет—будзем з напружаньнем углядацца на ход, праявы і вынікі гэтае першае *адкрытае* барацьбы паміж галоўнымі палітычнымі кірункамі ў польскім грамадзянстве.

## „Рэконструкцыя“ габінэту,—ці што іншае?

На аднагалосны крык апазіцыі: „ў адстаўку!..“ якім яна праводзіла ўсіх „экспонаваўшых“ засільле сваіх сацыяльна-палітычных апэтытаў і бязьсільле сваей гаспадарственай думкі прадстаўнікоў сучаснага ўраду, апошні адказаў *умацаваньнем, консолідацыяй партыйных сілаў правіцы* і амаль ня *поўным паглыненьнем* другой сваей складовай часткі—„*людовага цэнтру*“.

Абараняючыся ад нападак апазіцыі і пераходзячы ў наступленьне, „Хьена“ перадусім *праглынула* зьвязываўшага яе „рухі“ „Пяста“...—цяпер ужо „Хьена“ сама стала *паўнаўладным* „*пястам*“ (гаспадаром) Польскага гаспадарства,—вось каротка запраўдны сэнс адбыўшаеся цяпер „рэконструкцыі„ габінэту.

---

Трэба добра разабрацца ў гэтым факце „перамогі“ правіцы над „людоўцамі“ і зрабіць з яго ўсе вывады.

Уваход у склад ураду двух галоўных правадыроў „эндэцыі“—Дмоўскага і Ст. Грабскага—сьведчыць аб тым, што *галоўную ролю, кіраўніцтва і адказнасьць* за ўсю палітыку габінэту зусім выразна бярэ на сябе гэтая партыя—„народная дэмакратыя“.—Роўных гэтым „гаспадарственым мужам“ ўва ўсім „Хьена-Пясьце“ наагул няма, і іх рашучая, амаль ня *дыктатарская* роля ў урадзе—бязсумліўна!

Можна толькі дзівіцца, чаму яны ўваходзяць да ўраду толькі цяпер, дапусьціўшы, каб іх бяздарныя папярэднікі дашчэнту скампрамітавалі ўсю фірму іхняе партыі!..

Гэта само сабой ужо зводзіць амаль *да нуля палітычную ролю* ў габінэце дагэтуль быццам палітычна-кіруючую ролю яго „левай“ палавіны,—якая ў асобе прэм‘ера п. Вітаса нават *прадстаўляла* ўрад.

Але каб зрабіць ужо зусім ясным і бязсумліўным гэтае „абмяжаваньне ў правох“, гэтае палітычнае, як кажуць расейцы, „разжалованьне“ прэм‘ера, да апошняга прыстаўлены, так сказаць, „дзядзька“, ці афіцыяльна—яго заступнік—у асобе самога п. Корфантага!..

Уваход у ўрад лідэра Хрысьціянскай Дэмакратыі, які толькі што „фрондаваў“ проці габінэту і прарочыў яму шмат кароткія дні, палітычна ўмацоўвае ўрадовы блёк, консолідуючы яго пэўным новым цясьнейшым паразумленьнем... Дык вось—палітычная роля „Пяста“ ў габінэце амаль ня спынена зусім: ад апошняе асталіся толькі прозьвішчы яго лідэраў...

---

Але можа за тое паны Вітас і Кернік вытаргавалі ад Хьены штось рэальнага з *сацыяльнай* часткі, таемнага „пакту“... На гэтае мала коратка адказаць: Не!..—Справа—шмат больш дрэнная...

Як ведама, тою цаною, за якую прадаліся Хьене і прадалі інтарэсы польскае дэмакратыі вітасавы „людоўцы“,—былі пэўныя „ўступкі“ правіцы ў вобласьці „зямельнай рэформы“.

Праўду кажучы, гэтыя „ўступкі“ йшлі шмат „бліжэй“, як першая „зямельная рэформа 1919 г.“, і могуць вярней быць названымі *ўступкай* „Хьене“ „*з боку* „*людоўцаў*“; але як-бы ні было—Пяст у пакце „вытаргаваў“ ад Хьены распарцэляваньне тым ці іншым способам да 2-х мільёнаў дзесяцін зямлі, лічучы ня менш, як па 400.000 дз. у год.

Але мы памятаем, што ўжо тады сама „Хьена“ амаль не *распалася* на кавалкі з прычыны гэтага пункту „пакту“, на якім катэгарычна стаяў п. Вітас, бо іначай дапраўды ўвесь „пакт“ ня меў для „людоўцаў“ і іх *люду* абсалютна ніякага сэнсу і смаку.

Уплывовая група абшарнікаў, з пазнанскімі магнатамі ў цэнтры, якія стварылі г. зв. „Хрысьціянскую Нацыянальную Партыю“ (гэтак званыя “Дубадэкі“ — па прозьвішчы іх прэзэса праф. Дубановіча),—заявілі тады рашучы пратэст проці гэтага пункту „пакту“, заявіўшы, што не дадуць сваіх абшараў „на паству вітасавым мужыкам“!..

Іменна з гэтай прычыны гэтая магутная група і *не ўвайшла* тады ў урад, *нават ня дала яму пры рашучым галасаваньні бязумоўнага даверыя*, засьцярогшы сабе права галасаваньня *проці* ўсіх „аграрных экспэрымэнтаў“ „сацыяльна-палітычных рызыкантаў—людоўцаў, хадэкаў і эндэкаў“...

Голас гэтай групы абшарнікаў кожны віленчук можа дачуць у мясцовай газэце „Słowo“...

Мы памятаем, як горача папераджалі п. Вітаса проці гэтага пакту ўся дэмакрацыя Польшчы, а насамперш—яго ўласныя калегі гэтак званага „левага крыла“, якія пасьля адкалоліся ад „Пяста“ і стварылі асобную „групу Домбскага“.

I вось цяпер, калі наступае час рэалізацыі гэтага пакту і абяцанак Хьены, калі запраўды прышлося выбіраць паміж „Пястам“ і „Дубадэцыяй„ — *паміж людам Вітаса і абшарнікамі Дубановіча*, дык ня толькі ад знамянітага „пакту“ не асталося нічога, апроч паперы, але, сталася нешта большае!..

Справа—ў тым, што ў новым габінэце „міністэрства земляробства“ атрымаў ня хто іншы, як іменна *прадстаўнік* тое *самае групы абшарнікаў*, якая ад самага пачатку заявіла сваё рашучае „veto“ проці таго, у чым п. Вітас і яго людоўцы слушна бачылі галоўны, калі не адзіны, сэнс свайго аб‘яднаньня з Хьенай, сваей здрады дэмакратыі...

Самы тупагаловы з тых мужыкоў, якія далі мандат даверыя вітасавым „людоўцам“, уцяміць, што значыць гэты факт перадачы партфэлю зямельных спраў, якое вельмі спрытна быццам аддзелена ад мін. зямельных рэформаў (?) у рукі такога „прынцыповага“ абшарніка, як п. Хлапоўскі...

I вось,—калі „назначэньне“ над „прэм‘ерам“ Вітасам “апекі“, у асобе „віцэ-прэм‘ера“ Корфантага, — зьяўляецца *палітычнай сьмерцяй* „Пяста“, дык *перадача баявога, прынцыпова-сацыяльнага, казырнага портфэлю* „*людоўцаў*“—іменна іх *прынцыповым сацыяльным ворагам* гэтага самага *люду*, які быццам маюць бараніць гэтыя самыя „людоўцы“—зьяўляецца больш як *сацыяльнымі хаўтурамі* „Польскае Людовае Партыі Пяста“...

Асаблівае значэньне гэтага перададзенага партыі „хрысьціянскіх абшарнікаў“ зямельнага партфэлю выяўляецца цяпер з прычыны вельмі цікавага і вострага „zatargu“ сучаснага правіцовага ўраду... з Каталіцкім Касьцёлам!..

Гэтая справа, у якой вельмі цікава для сучаснае Польшчы „палітычны“ мамэнт спатыкаецца з сацыяльным, зьяўляецца цесна зьвязаннае з „зямельнай рэформай“ пытаньне аб прымусовым выкупе гэтак званых „добр касьцельных“—на рэч „зямельнай рэформы“.

Яшчэ гэтак нядаўна „Хьена“ гатова была прынясьці ў ахвяру сацыяльным дамаганьням Пяста „кась-

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

„Robotnik“ паведамляе, што, ня гледзячы на афіцыяльныя паведамленьні, быццам, забастоўка чыгуншчыкаў спыняецца, яна, наадварот, пашыраецца і ахаплівае новыя районы. У Варшаве забаставалі паравозныя майстэрні Варшава-Гданск і Варшава-Прага. Забастоўка ахапіла таксама Скерневіцы і Лазы.

У Варшаве адбыўся мітынг забаставаўшых чыгуншчыкаў, на якім было прысутных больш за 12.000 асобаў. Усе прысутныя выказаліся за далейшае вядзеньне забастоўкі да поўнай перамогі.

---

У **Кракаве** расплякатавана абвяшчэньне Камандзіра Кракоўскага вокругу ген. Чыкеля, якое на падставе пастановы Рады Міністраў і загаду ваеннага міністра ўводзіць даразныя суды за дэзэртырства, падбураньне да дэзэртырства, працівадзейнасьць проціў абавязкаў вайсковага падпарадкаваньня і за праступленьні папсаваньня срэдстваў камунікацыі. Адначасна выданы загад аб прызыве на ваенную службу штатных працаўнікоў чыгунак радавых рэзэрву 1883—1901 г. г. Не выпаўняючыя гэтага загаду будуць лічыцца дэзэртырамі і будуць аддадзены даразнаму (палявому) суду.

---

Палажэньне ў **Кракаве** без переменаў. Чыгуншчыкі і паштавікі стойка бастуюць. Адозва ген. Чыкеля, пагражаючая палявымі судамі, не дала ніякіх вынікаў. Забастоўшчыкі не пабаяліся пагрозаў і ніводзін ня прышоў на працу. Паліцыя забараніла зрабіць мітынг пад голым небам. Мітынг адбыўся ў памешканьні Профэсіянальных Саюзаў. Прынята рэзалюцыя аб далейшым вядзеньні забастоўкі, аж да перамогі.

---

У **Львове** забастоўка чыгуншчыкаў шмат пашырылася і ўжо мае характар генаральнай забастоўкі. Не працуюць усе майстэрні, паравозаўні і аддзел руху. Рух цягнікоў, бадай што, спыніўся, а якія адыйшлі, абслугоўваюцца войскам. Адбыўся вялізарны мітынг чыгуншчыкаў. Пастаноўлена баставаць да перамогі. Настрой моцны, але спакойны.

У **Самборы** і **Перамышлі** забастоўкі ахапіла ўсе аддзелы.

У **Лодзі** забастоўка трывае далей. У суботу адбыўся сход усіх чыгуншчыкаў, прызваных да войска. Пастаноўлена, што прызваныя чыгуншчыкі не дапусьцяць, каб іх ужылі да разьбіцьця забастоўкі, але толькі будуць адбываць вайсковае абучэньне.

У **Пазнані** бастуюць працаўнікі чыгуначных майстэрняў, паравазоўняў, вугальных складаў, магазынаў, часткова служачыя станцыі. Забастоўка прыймае ўсё больш востры характар.

У **Любліне** па загаду старосты арыштаваны старшыня і сябры праф. саюзу чыгуншчыкаў. Пратрымаўшы 20 гадзін пад арэштам іх звольнілі. У **Новым Сончу** паліцыя рабіла аблаву на забастоўшчыкаў. Работніцкі дом абкружылі войскам, пры гэтым маёр Мацеёўскі даў загад біць прыкладамі быўшых там кабетаў і дзяцей.

---

У **Лодзі** з прычыны разьбіцьця забастоўкі хадэкамі і энпээрамі праф. саюз работнікаў тэкстыльнай прамысловасьці пастанавіў зьліквідаваць забастоўку. Прадстаўнікі падпісалі ўмову з прамыслоўцамі.

---

Ня гледзячы на тое, што курс маркі за апошні тыдзень ня толькі не панізіўся, а нават крыху павысіўся дарагоўля на ўсе прадукты расьце. Урад падвысіў з 1-га лістапада на 200 проц. чыгуначныя тарыфы і на 100 проц. тытунёвы акцыз, абяцаючы ў бліжэйшыя дні яшчэ большае павялічэньне падаткаў і акцызаў.

---

У знак пратэсту проціў увядзеньня палявых судоў у Кракаве Цэнтр. Камітэт P.P.S. супольна з Цэнтр. Бюро Проф. Саюзаў абвесьцілі генаральную забастоўку на 5-га лістапада. № 300 „Robotnika“, у якім была надрукована адозва Ц.К. P.P.S. аб абвешчаньні забастоўкі канфіскаваны.

---

Забастоўка ў Варшаве ахапіла амаль усе фабрыкі. Забаставалі ўсе гарадзкія работнікі, электроўня не працавала і была занята войскам, трамваі не курсавалі, апрача некалькіх вагонаў, якія абслугоўваліся штрэйкбрэхерамі.

---

На правінцыі забастоўка ахапіла Бельск-Бяла, Жывец, капальні солі ў Бохніі і Асьвеціне. Часткова забастоўка ахапіла Горна-Шлёнскую і Домброўскую прамысловасьць.

---

У Кракаве, Львове, Станіслазове, Тарнове, Чэнстахове, Барыславе, Плоцку, Радомску і інш. забастоўка ахапіла ўсе прадпрыемствы. У Лодзі абвяшчэньне генаральнай забастоўкі адложана на сераду.

---

У шмат якіх гарадох арыштаваны сябры ўрадаў праф. саюзаў. У Варшаве паліцыя і войска на пагатове. Прыбываюць засілкі з правінцыі.

У Варшаве ў памешканьне Акружнага Бюро P.P.S. падкінута бомба. Узрывам зьнішчана частка памешканьня і забіты сторож.

---

„Robotnik“ у выдадзеным надзвычайным дадатку паведамляе, што Кракаў апанаваны праз работнікаў. Першы полк уланаў і 2-гі полк пяхоты здалі аружжа.

„Dz. Wil.“ паведамляе, што гэтыя чуткі праўвялічаны. Разброены толькі адзін батальён пяхоты. Эскадрон 8-га палку уланаў заатакаваў работнікаў, пры гэтым 17 уланаў, ротмістр і 2 афіцэры забіты. Ваявода Галэцкі і ген. Чыкель звольнены. На іх месца назначаны і выехалі да Кракава віцэ-міністар Ольнінскі і ген. Жэлігоўскі. Адначасна выслана шмат войска.

---

Віцэ-прэзэс Корфанты вядзе перагаворы з прадстаўнікамі P.P.S. аб ліквідацыі забастоўкі.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Нямеччына, як здаецца, знаходзіцца ў пярэдадні грамадзянскае вайны. Дабіўшыся адстаўкі сацыялістычна-камуністычнага ўраду ў Саксоніі ваеннаю сілаю, урад Штрэзэмана зусім ня прымаў ніякіх шагоў проціў манархічна-фашыстаўскіх арганізацыяў у Баварыі. Магчыма, што каоліцыйны ўрад Штрэзэмана сьвядома даваў час баварскім фашыстам умацавацца, і цяпер баварская чорная сотня ўжо адкрыта выступае проці Нямецкай Рэспублікі.

Газэты падаюць сэнсацыйныя весткі, што баварскі дыктатар Кар зваліў баварскі ўрад і выслаў Цэнтральнаму Нямецкаму ўраду ультыматум, у якім пагражае паходам на Бэрлін, калі праз 24 гадзіны ў Бэрліне ня будзе ўведзена фашыстоўская дыктатура. Баварскія баявыя аддзелы сканцэнтраваны на граніцы сацыялістычнай Тюрынгіі, ужо мелі месца баі паміж баварскімі баёўкамі і Тюрынгенскай паліцыяй. Бэрлінскі ўрад выслаў у Тюрынгію ген. Рэйнгардта, але сацыялісты ня вераць яму, як ня вераць і міністру абароны Гесьлеру, якіх лічаць прыхільнікамі фашыстаў. Адначасна манархісты распачалі працу ў Мэкленбургу, Памераніі, Сілезіі і Брандэнбургу. Кронпрынц Рупрэхт афіцыяльна выступае на ваенных парадах у Мюнхэне. Кажуць, што ўжо вызначаны кандыдаты на каралёў у паасобныя краінах Нямеччыны.

Сацыял-дэмакраты, якія падтрымоўвалі ўрад Штрэзэмана і самі ўваходзілі ў яго і надзялілі яго надзвычайнымі паўнамоцтвамі, урэшце зразумелі памылковасьць сваей палітыкі і падаліся ў адстаўку. Ходзяць чуткі, што габінэт Штрэзэмана будзе папоўнены прадстаўнікамі крайніх правых партыяў. Прэзыдэнт Эбэрт пагражае ў гэткім выпадку падацца ў адстаўку. Чым закончыцца рэконструкцыя габінэту Штрэзэмана, гэта ў сучасны мамэнт ня мае ўжо ніякае вагі. Цэнтр цяжару пераносіцца на аружную барацьбу паміж крайняй рэакцыяй і працоўнымі масамі і ад вынікаў гэтай барацьбы залежыць як будучы палітычны лад у Нямеччыне, так і наагул умацаваньне таго ці другога лагеру ў Эўропе, што бязумоўна мае першараднае значэньне ў палітычным жыцьці Эўропы і нават усяго сьвету.

---

У Саксоніі ўтварыўся ўрад, які складаецца з сацыял-дэмакратаў. Старшыня міністраў Фэліш у аўторак выступіць у Сойме з праграмнай прамовай.

---

Рэйхсвэр далей займае паасобныя мясцовасьці Саксоніі. Ува ўсіх мясцох насяленьне аказвае праціўленьне, часта аружнае. Не абыходзіцца без забітых і параненых.

---

На баварска-тюрынгенскай граніцы йдзе страляніна паміж фашыстаўскімі аддзеламі і тюрынгенскай паліцыяй. Цэнтральны ўрад сьцьвердзіў, што Баварскія баёўкі на гэтай граніцы налічваюць каля двух палкоў.

---

Сацыял-дэмакратычная фракцыя нямецкага парлямэнту пастанавіла выйсьці з урадовай коаліцыі. Міністры-сацыялісты падаліся ў адстаўку. Адстаўка прынята. Урад Штрэзэмана будзе апірацца выключна на буржуазныя партыі. Магчыма, што парлямэнт будзе распушчаны.

## С. С. Р. Р.

Радавы ўрад зьвярнуўся да японскага ўраду з пратэстам з прычыны гвалтаў японскіх ваенных караблёў у тэрыторыяльных водах Радавых Рэспублікаў на Далёкім Усходзе.

---

У Варшаве адбываюцца перагаворы паміж віцэміністрам загранічных спраў Сэйдай і прадстаўніком С.С.Р.Р. Коппам у справе гандлёвага трактату паміж Польшчай і С.С.Р.Р. пры гэтым прадстаўнік С.С.Р.Р. Копп асабліва дамагаўся вольнага транзыту праз Польшчу да Нямеччыны, зусім незалежна ад унутраных палітычных варункаў у краёх, куды празначаецца экспорт.

## ШВАЙЦАРЫЯ.

У Лазане распачаўся працэс Конрадi — забойцы прадстаўніка Радавых Рэспублік на Лазанскую Конфэрэнцыю Вароўскага.

## ЮГАСЛАВІЯ.

У Софіі, сталіцы Баўгарыі, забіты невядомымі асобамі ваенны аташэ Югаславіі. Цяпер Югаславія прад'явіла баўгарскаму ўраду ўльтыматум, аб выпаўненьні раду варункаў для задавальненьня нацыянальнага гонару Югасlаліі. Як раз так, як рабіў Мусаліні ў вядомым конфлікце з Грэцыяй.

---

*Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоунікам.*

---

# З газэт.

### Пагромная агітацыя.

Ня гледзячы на тое, што ў польскіх законах істнуюць артыкулы, якія цяжка караюць за цкаваньне аднае часьці насяленьня проці другое,—эндэцкім газэтам „усё можна“: прыклад поўнае няўвагі на сказаныя артыкулы дае галоўны орган пануючае ў Польшчы партыі „Gazeta Warszawska“.

У № 301 „Gaz. Warsz.“ адкрыта выступіў з пагромнай агітацыяй вядомы „жыдаед“ Ст. Пеньковскі, які і падпісаўся пад сваей стацьцёй „Klęby Syjonu“ поўным сваім прозьвішчам. У гэтай стацьці знаходзім, паміж іншым, гэткія „пэрлы“ эндэцкага ідэалёга:

> „Перад вачыма сьвету паўстае жыдоўскі народ—у-ва ўсім сваім цэлым, як аднолітная армія праступнае мафіі“.
>
> „Адзіная разьвязка жыдоўскага пытаньня, да якое раней ці пазьней трэба будзе дайсьці, гэта—зусім выкінуць жыдоў з грамадзянства людзей“.
>
> „Калі выкідаем з грамадзянства ніжэйшыя тыпы, як праступнікаў, ашуканцаў і зладзеяў, дык з тым вялікшай патрэбнасьцяй і з тым сьвяцейшым правам мы прымушаны будзем выкінуць спасярод нас закамянелы народ ненавісьці і помсты“.

І ўсё гэта пішацца ў органе ўрадовае партыі акурат у той дзень, калі ў Варшаву прыехаў дырэктар сэкцыі нацыянальных меншасьцяў Лігі Нацыяў. У сам час: п. Кольбан якраз прыехаў у Польшчу ў справах палажэньня нацыянальных меншасьцяў у Польскай Рэспубліцы.

І нумэр „Gaz. Warsz.“ з гэткімі пісаньнямі пракуратура не сканфіскавала....

### А „на Крэсах“—кепска!

Ня гледзячы на ўсю ману эндэцкіх пісакаў, што ў Заходняй Беларусі ніякіх беларусаў няма, што гэта „іскoні польская зямля“ і г. д.,—і сучасны ўрад, і польскае грамадзянства сваімі ўчынкамі даводзяць, што папраўдзе ня ўсё тут „так добра“, як-бы ім жадалася. Урад 60% усяго буджэту міністэрства „зямельных рэформ“ аддае на тое, каб „Усходнія Крэсы“ засяліць польскімі „асаднікамі“ і гэтак узмацаваць тут польскі элемэнт. Ці-ж гэта ня доказ, што гэнага польскага элемэнту ў нас зусім мала? А вось „польскія кабеты“ дык у сваей адозьве, заклікаючай усіх „крэсовых“ жанок-полек на зьезд у Вільню, проста кажуць, што бяз іх—без жанок—ніяк нельга будзе зрабіць гэныя „Крэсы“ запраўды польскімі:

> „Жанчыны - полькі! Перажываем цяпер вельмі цяжкія часы. Але, калі мы не пачнем цяпер працы над будаваньнем, ачышчэньнем і усьведамленьнем Крэсаў і над зьліцьцём іх з Маткай ( — значыцца, Польшчай), дык прыйдзе нехта іншы, і нашы дзеці даждуцца ў сто разоў цяжэйшых дзён“.

Запраўды, мусіць такі цяжка „усьведамляць“ беларускага селяніна аб яго „польскасьці“, калі гэтага ніяк нельга зрабіць без... жанок польскіх!

Не дарма прыказка кажа: „дзе чорт ня можа, там бабу пашле“....

### Аб кракаўскіх загадах.

„Robotnik“, галоўны пэпээсаўскі орган, востра выступае проці кракаўскіх загадаў, якія, на яго пагляд, ня маюць пад сабой ніякае законнае падставы: улада апіраецца на сваю ўласную волю—пастанову рады міністраў.

> „Даведываемся, што ў Кракаве ген. Чыкель выдаў указ, які—на аснове гэнае постановы заводзіць ваенна-палявыя суды („sądy darożne“). Рада міністраў сваей пастановы не апублікавала. Але на яе пазываецца ген. Чыкель—не на нейкі закон, а толькі на загад рады міністраў. Вось-жа можа ўрад выдаваць загады, але толькі ў межах істнуючых законаў. Але ніякага абавязываючага закону аб ваенна-палявых судох у войску няма. Такі закон істнаваў, ды ўтраціў сваю моц з канцом вайны. Дык калі ўрад цяпер заводзе ваенна-палявыя суды, то гэта—нячуванае беззаконьне! Ніводзін дэзэртыр, ніводзін душагуб—вайсковы не падлягае цяпер ваенна-палявому суду. Затое завялі—дагэтуль толькі ў Кракаве—ваенне-палявыя суды для чыгуншчыкаў—толькі за тое, што яны забастоўкай дабіваюцца паляпшэньня свайго быту!“

А далей „Robotnik“ кажа:

> „Гэта такое яркае нарушэньне права, што—запраўды—толькі такі ўрад, як цяперашні, урад крайняе рэакцыі і разыйшоўшагася паскарства (спэкуляцыі) мог гэта зрабіць“.

Правыя газэты аб гэтым маўчаць.

